

# Голас душы




№ 10 (194)
Субота, 11 сакавіка 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# ПРАЦЯГНІ СВАЕ РУКІ ДА ХРЫСТА!

*Хвала Хрысту!*
*Шаноўныя людзі!*

Ужо некалькі дзён, як мы ўвайшлі ў Вялікі пост духоўнай радасці. Сёння мы чуем збаўчыя словы, што Хрыстос патрэбен – не праведнікам, а грэшнікам. Чуеш, чаму «духоўнай радасці»? Што можа быць даражэйшым і шчаслівейшым на гэтым свеце за разуменне – **Хрыстос цябе кліча, Хрыстос цябе чакае, Хрыстос пра цябе памятае!** Божа, Які Ты добры! Якая была вялікая радасць тых сляпых людзей, упамянутых у Евангеллі, якія безупынна крычалі: «Хрыстос, Ісус, злітуйся над намі!» І вучні, падышоўшы да іх, сказалі: «Пойдзем, Ён (Ісус) чакае вас». Як хутка яны ўскочылі і выцягнулі ў мальбе свае рукі да Хрыста! І ты ўставай і падымайся ў часе Вялікага паста, не сядзі дома, Хрыстос цябе кліча! Хрыстос цябе чакае! Тут Святое Пісанне адказвае кожнаму з нас на пытанне – ці трэба мне ісці ў Дом Божы, касцёл, царкву, што я там буду рабіць і што мне гэта дасць? Па-першае, ты пачуеш словы Ісуса Хрыста, Сына Божага: «...чалавек, ты Мой любы брат». Калі нас прыгнятае цяжар грахоўнасці, хоць мы і прызнаём Ісуса, але ўсё ж мы не любыя Хрыста, бо не той Яму любы, хто гаворыць: «Госпадзе, Госпадзе!», а той, хто выконвае волю Айца, Які ёсць на небе (пар. Мц 7, 21). Усявышні Бог міласэрны і цярплівы і мае час нас чакаць і дзень, і месяц, і год, і ўсё чалавечае жыццё. Да апошняй хвіліны, секунды Госпад цярпліва чакае, калі чалавек абудзіцца ў сумленні для Бога і жыцця вечнага.

Так, сёння ты можаш не паслухацца і не ўстаць, каб выйсці насустрач Хрысту ў час Вялікага посту, але ой, як ты ўскочыш на заклік Хрыста ў хвіліну смерці, Ён цябе не тое што з дому і кватэры выкліча, але з самога прадоння. **Выцягні сёння ў мальбе да Хрыста свае рукі,** за сваю сям'ю, дзяцей, народ. Мы адчуваем, што сярод



нас, якія жывём на зямлі, няма чалавека, які б не сказаў, што яму не трэба навяртанне, пакаянне і жаданне ўсё больш служыць Богу і любіць Яго. Калі мы кажам, што ў нас няма грахоў, тады атрымоўваецца, што Ісус памыляецца, кажучы, што Ён прыйшоў заклікаць да пакаяння грэшнікаў. Тады хто правы? Бог, Які бачыць таемнае (Мц 6, 18), ці чалавек, які не разумее нават, хто ён ёсць сам для сябе, бо такі ніколі не заглядваў у сваё сумленне, не рабіў рахунку сумлення, ніколі не задумваўся над сэнсам жыцця, ніколі да толку нічога духоўнага не прачытаў, жыве так сабе. Таму Вялікі пост, у які мы ўвайшлі, напамінае ўсім нам, што мы павінны прызнацца ў сваіх слабасцях і недасканаласцях, у сваёй грахоўнасці. Вялікі пост заклікае ўсіх людзей да па-

каяння за свае грахі, грахі сваіх дзяцей і іх бясшлюбнае жыццё, за грахі родзічаў ці за родных памерлых.

Захоўваць пост можна ў любы дзень, у Госпада ўсе дні святыя, але асабліва ў сераду і пятніцу, бо ў гэты час Вялікага Посту мы маем магчымасць прысвяціць сябе крышачку Богу, разважаючы над крыжовай дарогаю Сына Божага і нашага Збаўцы Ісуса Хрыста. Славім Бога, у Тройцы адзінага, перапрашаем і просім дапамогі на гэты Вялікі пост, на гэтую духоўную дарогу, каб мы ішлі не толькі з малітвай, але і з пакаяннем, захоўваючы пост, тым самым адраджаліся духоўна.

**Служэнне Богу – гэта радасць.** Як можа быць інакш? У час Вялікага посту мы славім Бога, а Ён ідзе да нас. Засмучаныя толькі крывадушнікі (Мц 6, 16) і ворагі Бога, учынкі і жыццё якіх будзе раскрыта, аб'яўлена свету і асуджана Усявышнім. Сіла малітвы, падмацаваная пастом, узносіцца да вышынь нябесных.Вы не знойдзеце на працягу ўсёй гісторыі хрысціянства ні аднаго святога, які б служыў Богу, людзям і не пасціўся. Паглядзіце, Ян Хрысціцель над Ярданам. Якая была яго ежа, які пост, але затое, Каго ён сустрэў? – Месію!

**Пост нас узвышае, адрывае ад ўсяго зямнога, грэшнага, падымае да ўзнёслых, духоўных рэчаў, да Бога.** І чалавек, захоўваючы пост, мае ўсё больш духоўнай сілы і дапамогі Бога.

На Вялікі пост, як у мінулым годзе, так і ў гэтым, *мы атрымалі вялікую ласку Божую, Божае і касцёльнае благаславенства, праз паслугу яго эксцэленцыі ксяндза-біскупа Антонія, які пабласлявіў ваду і ўсіх тых, хто захоўвае пост у сераду і пятніцу толькі на хлебе і вадзе.* Няхай Бог адорыць усімі ласкамі гэтых людзей, іх сям'і, родных і блізкіх. Памолімся Госпаду Богу за іх і за ўсіх, хто ў часе Вялікага посту захоўвае не толькі ўстрыманне ад ежы, бо гэта толькі першая ступень да духоўнай дасканааласці, але імкнецца не асуджаць, не праклінаць, не казаць нядобрых слоў, устрымлівацца ад курэння, ад вечарынак, выпіўкі і г.д., адным словам, падчас Вялікага посту імкнецца вярнуць Богу ўсе свае даўгі.

Чуем словы святога Пісання – новая зямля і новае неба. Тут мы бачым другі напрамак, бо, дзякуючы Вялікаму посту чалавек узнімаецца духоўна. Але, каб малітва цябе радавала духоўна, трэба навучыцца ўстрыманню. Да малітвы Хрыстос далучае пост. **Што такое пост? Гэта абмежаванне сябе ў чымсьці : ці то адмаўленне ад любімай ежы, ці то не дапусканне дурнога ўчынка, ці то стрымліванне свайго языка.** А чаму трэба ўстрымлівацца? Для каго? Для Бога! Нават наша прысутнасць у касцёле – гэта таксама свайго роду пост. Знаходзячыся ў касцёле, мы ахвяравалі свой вольны час Богу, не прасядзелі гэтыя гадзіны перад тэлевізарам – мы паахвяравалі для Бога сустрэчу з сябрамі, не пайшлі ў кіно і г.д., а прыйшлі ў касцёл. Мы сябе абмежавалі гэтымі касцёльнымі сценамі ад ўсяго света, каб пачуць Бога, пачуць Яго не вушамі, а сэрцам і атрымаць Божую дапамогу на далейшае жыццё.

Сёння свет крычыць: «Не трэба паста!», і тым самым разбурае той фундамант, на якім будуе сваю цывілізаваную будучыню. Але ці ж могуць ажыццяўляцца навуковыя адкрыцці без сканцэнтравання ўвагі навукоўцаў у закрытых ад свету лабараторыях, навуковых канферэнцыях, палігонах, інстытутах і акадэмгарадках? **Што такое пост? Гэта дабраахвотная малітоўная самота ў задуме для паправы і ўдасканалення асабістага і супольнага жыцця праз дабраахвотныя самаадрачэнні ад ежы, злых учынкаў, гэта паяднанне з бліжнімі, адным словам – перагляд сумлення і жыцця.** Як у першым выпадку не будзе адкрыццяў і навукоўцаўлідэраў, так і ў другім выпадку не будзе святых і духоўных сапратнікаў.

Як бачым, свет паўстае не толькі супраць Бога, хрысціянства і парадку, але і супраць навуковай сферы. Дык што сабою ўяўляе свет, калі не сатанінскую задуму знішчыць ўсё разумнае і святое. **Бязбожны свет – марыянетка сатаны.** Калі ў пашых сэрцах ёсць Бог, Ён кліча нас, каб мы абмежавалі сябе ад гэтага грэшнага свету і былі з Ім прынамсі праз нейкі час. Вось гэта і ёсць пост.

Таму мы стараемся праз велікапосныя набажэнствы, адарацыі разважаць і адчуваць бязмежную веліч паста, каб мы хацелі разумна карыстацца веліччу гэтага свету. Усявышні дарue нам радасць жыцця на зямлі, уся Біблія, кожны радок Святога Пісання заклікае нас задумацца аб небе, бо **Біблія – гэта пуцевадзіцель на зямлі ў дарозе да неба**. Пачатак Святога Пісання-Бібліі гаворыць аб тым, што чалавек выходзіць з рук Госпада і павінен вярнуцца да Бога.

Мы, карыстаючыся дабротамі гэтага свету, дзякуючы веры, можам валодаць сабою, дзякаваць Богу за дар жыцця, і прыгажосць наваколля. Але галоўнае, аб чым мы молім Бога: **«Божа, дапамажы нам пражыць пост дастойна, у цішыні сэрца, каб мы таксама адчувалі веліч Твайго ўваскрашэння на Вялікдзень, і радаваліся разам з усімі вернікамі на зямлі.**

**Божа, дапамажы нам мабілізаваць свае духоўныя сілы на Тваю хвалу!**

**Ісусе Хрысце, да Цябе мы прасціраем нашы рукі – дапамажы нам, бо толькі Ты маеш словы жыцця вечнага» Амэн.**

*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк*



# КАЛІ ТЫ ШЧЫРЫ САМ З САБОЙ...

***25 лютага 2006 года, у апошнюю суботу перад Вялікім Пастом Чырвоны касцёл наведаў гурт "Miłość" з Ліды.***

Гэта сустрэча з'явілася своеасаблівай прадмовай перад надыходзячым Вялікім Пастом. Шмат песень было спета ў дольным касцёле. Многія з іх былі напісаныя спецыяльна для нашага касцёла. Колькі гадоў чакала мінская моладзь сустрэчы з гэтым гуртом. Гучалі, прасякнутыя глыбокім сэнсам, поўныя любові да Бога і Маці Божай, вершы кіраўніка гурта ***Андрэя Змітровіча***. Пранікнёна, нават па-хатняму, як сярод самых блізкіх сяброў, струменіліся песні-балады ў выкананні гурта. Усе вершы гэтых песень напісаны стваральнікам гурта. Як быццам перажытыя падзеі ў нашым жыцці знайшлі пераўвасабленне ў вершах. Як потым гаварыў Андрэй, ён спецыяльна не выдумвае тэмы, не сядзіць гадзінамі над лістком паперы. З-пад яго алоўка льюцца радкі, якія ўжо нарадзіліся ў думках, а ён толькі запісвае, надаючы ім акрас свайго светапогляду, укладаючы душу ў халодны стрыжань алоўка. І таму на канцэрце замест прадстаўлення песні ён чытаў свае вершы, якія з'яўляліся і анонсам наступнага твора і апаведам-раскрыццём глыбокіх перажыванняў аб тых вечных каштоўнасцях, якімі жыве чалавек.

***"...Калі ты шчыры сам з сабою, у жыцці не патрабуеш шмат, а толькі просіш прабачэння ў Бога..."***

Адкрыццём як для мяне, так, мяркую, і для ўсіх слухачоў, з'явілася песня-балада аб 12-гадовай дзяўчынцы, якой наканавана было памерці ад невылечнай хваробы. Яе ўяўленні ў апошні момант жыцця: блакітныя кветкі, якія дакрануліся да яе ілба на знак апошняга крыжа-намашчэння. Прыход апошняй хвіліны яна ўспрыняла як подых кветах, як надыход прыгажосці, як пацалунак Маці Божай. Ці не страшна ёй было? Напэўна, так. А як гэта выразіць вершаванымі радкамі? Мы гэта пачулі. *Напэўна, многае пераасэнсоўваецца ў жыцці, калі сустракаешся са смерцю блізка, а яшчэ больш задумваешся аб марнасці нашай зямной мітусні, калі бачыш, з якой мужнасцю і вялікай духоўнай моцай гэта пераносяць людзі, асабліва малыя дзеці.*



Такая размова адбывалася паміж гуртом і моладдзю ў зале. І не было бар'ера, які аддзяляе хлапцоў, якія на сцэне, ад тых, на каго яны глядзяць. Бо ўсе мы глядзім у вочы Бога.

Гурт існуе ўжо амаль 10 гадоў, 31 жніўня 2006 года ён адзначыць свой першы 10-гадовы юбілей. Хлопцы, якія складаюць гурт, не прафесіяналы, але спевы – гэта і не іх "хоббі". Як сказаў кіраўнік гурта, **спевы – гэта іх жыццё, самавыражэнне, выказванне жыццёвай пазіцыі.** Ударныя, клавішныя, гітары – гэтыя сучасныя музычныя сродкі – не даніна модзе, а спосаб перадачы даступнымі для сучаснай моладзі галоўнай праўды на ўсе часы – любові Бога да чалавека. І таму "дзверы" адчыняюць маладыя людзі з гурта "Miłość", а гэта значыць "Любоў", для ўсіх душ і сэрцаў, якія шукаюць праўды і сэнсу, якія прагнуць выйсці з калавароту прыгнёту грахоў і жыцця, якое зацягвае штодзённымі дробязямі. Можа гэта і гучна сказана, але варта паслухаць хаця б некалькі твораў, каб зразумець, што гэтыя песні ідуць сапраўды ад сэрца. І маладыя людзі, якія спяваюць у гурце, таксама маюць дачыненне да духоўнасці, пражываючы радкі песень у сваёй душы. Бо выйсце з тупікоў кожны шукае сам, і каго ў дапаможнікі выбярэ, ад таго і залежыць далейшы лёс. Як спяваецца ў адной з песень "...хтосьці аднойчы скажа сабе: "Усё, абрыдла так жыць", ... "І цябе пачуўшы, знойдзе Хрыстос". І вось тады можна з Ім крочыць па жыцці, нават пешшу па 150 кіламетраў, як з Мінска да Будслава. І як блізка пачулі мы гэты "Будслаўскі рытм", нагадалі сабе дзесяткі, сотні кіламетраў, пройдзеных па дарогах роднай Беларусі на сустрэчу з Маці Божай Будслаўскай, прыпомніліся ночы чування каля Будслаўскага Санктуарыя.

Уваход у стан стрыманасці, цішы ў часе Вялікага Посту ажыццявіўся з дапамогай гурта "Miłość" , які з'яўляецца "правадыром" свету Хрыстовага для моладзі.

*Ала Неверовіч*

# Речь Святого Отца на аудиенции для семинаристов богословского колледжа «Apostoliki Diakonia» Греческой Православной Церкви

В понедельник, 27 февраля, в зале Консистории ватиканского апостольского дворца Святейший Отец Бенедикт XVI принял на аудиенции группу священников и семинаристов богословского колледжа «Apostoliki Diakonia» (Греческой Православной Церкви), возглавляемых Его Преосвященством Агатагелосом, епископом Фанарионским, генеральным директором «Apostoliki Diakonia», в связи с учебным визитом в Рим.

Публикуем текст речи, с которой обратился к ним Святейший Отец.



**Речь Святого Отца**

Ваше Преосвященство, досточтимейшие архимандриты, священники, семинаристы и все участники «учебного визита» в Рим, с радостью и благодарностью принимая вас в связи с этим визитом, хочу напомнить увещевание св. Игнатия, великого епископа Антиохии, с которым он обратился к Ефесянам: «Усердствуйте в том, чтобы чаще встречаться для воздаяния благодарения и хвалы Богу, ибо, если будете часто встречаться, силы зла побеждены будут, а его смертоносное деяние разрушено будет согласием вашей веры».

Для нас, христиан Востока и Запада, в начале второго тысячелетия *силы зла* проявились также в разделении, которое все еще остается между нами. Тем не менее, множество утешительных и исполненных надежды знаков, имевших место за последние сорок лет, позволили нам разглядеть новую зарю – начало дня, когда мы окончательно поймем, что быть укорененными в милосердной любви Христовой, считать ее основой своей жизни – значит найти конкретный путь для преодоления нашего разделения через личное и общинное обращение, уважительный диалог друг с другом и совместную молитву о нашем единстве.

Среди утешительных знаков этого пути – ответственного и неотъемлемого – хочу упомянуть о недавнем периоде позитивного развития отношений между Церковью Рима и Греческой Православной Церковью. Памятная встреча в афинском Ареопаге между моим возлюбленным предшественником Папой Иоанном Павлом II и Его Блаженством Христодулосом, архиепископом Афинским и всея Греции получила продолжение в различных делах сотрудничества, и были осуществлены полезные начинания, направленные на то, чтобы ближе узнать друг друга и способствовать воспитанию молодых поколений. Обмен визитами, стипендиями и сотрудничество в издательской области показали свою эффективность для развития диалога и углубления милосердной любви, которая есть совершенство жизни – как утверждает св. Игнатий – и которая, соединившись со своим началом, с верой, сумеет одержать верх над разногласиями этого мира.

Сердечно благодарю «Apostoliki Diakonia» за этот визит в Рим, за образовательные проекты, которые она осуществляет с *Католическим комитетом по культурному сотрудничеству* с Православными Церквами при Папском совете по содействию христианскому единству. Я уверен, что взаимная любовь сумеет дать пищу нашей изобретательности и позволит нам пройти новыми путями. Нам следует смело принять вызовы, угрожающие вере, возделывать духовный *humus*, веками питавший Европу, вновь утвердить христианские ценности, способствовать миру и встрече даже в более сложных условиях, углублять те элементы веры и церковной жизни, которые могут привести нас к цели полного единства в истине и любви, особенно сейчас, когда официальный богословский диалог между Католической Церковью и Православной Церковью в целом восстанавливает свой ход с обновленной силой.

В христианской жизни вера, надежда и любовь идут вместе. Насколько более истинным и действенным было бы наше свидетельство в нынешнем мире, если бы мы понимали, что путь к единству требует от всех нас более живой веры, более крепкой надежды и любви.

*Окончание на стр. 7.*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 12 САКАВІКА
## 2 НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
## ЧЫТАННЕ КНІГІ БЫЦЦЯ

*(Быц 22, 1-2. 9а. 10-13. 15-18)*

У тыя дні:

Выпрабоўваў Бог Аўраама і сказаў яму: "Аўраам". І ён адказаў: "Гэта я". Бог сказаў: "Вазьмі сына твайго адзінага, якога ты любіш, Ісаака, і ідзі ў зямлю Морыя, і там прынясі яго на ўсеспаленне на адной з гор, пра якую Я скажу табе".

Калі прыйшлі на месца, пра якое сказаў яму Бог, Аўраам пабудаваў там ахвярнік. І працягнуў Аўраам руку сваю, і ўзяў нож, каб закалоць сына свайго.

Але анёл Госпада паклікаў яго з неба і сказаў: "Аўраам, Аўраам". Ён адказаў: "Гэта я". Анёл сказаў: "Не падымай рукі тваёй на хлопца і не рабі з Ім нічога, бо цяпер Я ведаю, што ты баішся Бога і не пашкадаваў сына свайго адзінага для Мяне". Узняў Аўраам вочы свае і ўбачыў за сабою барана, які заблытаўся ў гушчары рагамі сваімі. Аўраам пайшоў, узяў барана і прынёс яго на ўсеспаленне замест сына.

Анёл Госпада другі раз паклікаў Аўраама з неба і сказаў: "Клянуся, – кажа Госпад, – паколькі ты зрабіў гэта і не пашкадаваў сына свайго адзінага, то Я бласлаўлю цябе і памножу патомства тваё, як зоркі на небе і як пясок на беразе мора, і патомства тваё здабудзе брамы ворагаў тваіх. І атрымаюць бласлаўленне ў патомстве тваім усе народы зямлі, бо ты паслухаўся голасу Майго.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 116В (115), 10 115. 16-17. 18-19 Р.: Пс 116 (114), 9)*

***Рэфрэн: Буду хадзіць перад Госпадам на зямлі жывых***

Я верыў нават тады, калі казаў: *
Я моцна прыгнечаны.
Каштоўная ў вачах Госпада *
смерць Яго святых.

***Рэфрэн.***

Я слуга Твой, сын слугі Тваёй, *
Ты разарваў мае кайданы.
Я прынясу Табе ахвяру хвалы *
і буду заклікаць Імя Госпада.

***Рэфрэн.***

***Рэфрэн: Буду хадзіць перад Госпадам на зямлі жывых***

Госпад добры і справядлівы, *
таму паказвае грэшнікам шлях.
Ён кіруе прыніжанымі ў справядлівасці *
і навучае пакорных сваім шляхам.

***Рэфрэн.***

## ПАСЛАННЕ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА РЫМЛЯНАЎ

*(Рым 8, 31в-34)*

Браты:

Калі Бог за нас, хто ж супраць нас? Той, хто ўласнага Сына не пашкадаваў, але аддаў Яго за ўсіх нас, ці ж таксама не дасць нам разам з Ім усяго? Хто будзе абвінавачваць выбраных Богам? Ці ж Бог, які апраўдвае? Хто будзе асуджаць іх? Ці ж Хрыстус, Які памёр, а нават больш за тое, уваскрос, знаходзіцца праваруч Бога і заступаецца за нас?

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

***Хвала Табе, слова Божае!***

З воблака светлага пачуўся голас Айца:
"Гэта Сын Мой умілаваны, Яго слухайце".

***Хвала Табе, слова Божае!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 9, 2-10)*

У той час:

Езус узяў з Сабою Пятра, Якуба і Яна і завёў на высокую гару іх адных. Там Ён перамяніўся перад імі. Ягонае адзенне стала зіхотка-белае, такое, што ніводзін бялільшчык на зямлі не здолеў бы выбеліць. І з'явіліся ім Ілля з Майсеем, якія размаўлялі з Езусам.

Тады Пётр сказаў Езусу: "Рабі! Добра, што мы тут: паставім тры шатры: адзін Табе, адзін Майсею і адзін Іллі". Бо не ведаў ён, што трэба гаварыць, гэтак былі яны напалоханыя. І з'явіўся воблак, які ахінуў іх, а з воблака азваўся голас: "Гэта Мой Сын любы, слухайце Яго!"

Адразу пасля гэтага, калі разгледзеліся, нікога ўжо не бачылі каля сябе, а толькі аднаго Езуса. Калі ж сыходзілі з гары, Ён загадаў ім, каб нікому не распавядалі пра тое, што яны бачылі, пакуль не ўваскрэсне Сын Чалавечы. Яны нікому не казалі пра гэта, разважалі толькі паміж сабою, што гэта азначае – "уваскрэснуць".

***Лектар:*** Гэта слова Пана.
***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

## БІБЛЕЙСКІЯ СМС




***Каталіцкі Касцёл Германіі арганізаваў праграму***, у рамках якой людзям будуць рассылацца СМС-паведамленні, якія ўключаюць урыўкі з Бібліі. Такім чынам Касцёл будзе дапамагаць мясцовым вернікам падрыхтавацца да надыходзячага Велікадня.

Акцыя, ідэя правядзення якой належыць Біскупскай канферэнцыі Іспаніі, каталіцкай радыёстанцыі «Domradio» і тэлепраграме Katholische Fernseharbeit, працягнецца з 1 па 16 сакавіка.

## ЛЮДЗІ СТАЛІ ЧАСЦЕЙ НАВЕДВАЦЬ ЦАРКВУ

***За апошнія некалькі гадоў ірландцы сталі больш наведваць царкоўныя службы. Паводле апытанню, праведзенаму арганізацыяй «Mintel Ireland»***, 15% апытаных назвалі наведванне царквы адным з 5 асноўных заняткаў у вольны час. У 2003 годзе аналагічны паказчык складаў усяго 9,3%.

Адпраўленне культу займае цяпер другое месца пасля паходаў па крамах, аднак розніца паміж імі імкліва падае. У 2003 годзе 23,5% жыхароў краіны называлі шопінг адным з 5-ці найбольш важных заняткаў. У 2005 годзе гэты працэнт знізіўся да 16,6.

Па паведамленнях выдання «Irish Independent» рост наведвальнасці цэркваў, верагодней за ўсё, выкліканы ростам евангелічных цэркваў, а таксама тым фактам, што каталікі павінны наведваць св. Імшу, калі жадаюць, каб іхнія дзеці змаглі атрымаць Святыя Сакраманты.



## ПЕЦЯРБУРГ СТАНЕ ЎДЗЕЛЬНІКАМ ТЭЛЕМАСТА З ПАПАМ

У пецярбургскім храме Святой Кацярыны на Неўскім праспекце 11 сакавіка адбудзецца малітоўны тэлемост з Бенедыктам XVI, прысвечаны IV Еўрапейскаму дню ўніверсітэтаў, паведаміў адзін з арганізатараў тэлемаста з расійскага боку Ілля Стогаў.

«Гэта першы падобны тэлемост з удзелам новага Папы Рымскага. У гэтай сувязі асабліва важна, што з расійскіх гарадоў быў вылучаны менавіта Пецярбург», – адзначыў ён.

Па яго словах, тэлемост аб'ядная ў малітве жыхароў Балгарыі, Германіі, Ірландыі, Іспаніі, Кеніі, Кот-д'Івуара, Нігерыі, Польшчы, Расіі і Францыі.

«У гэты дзень студэнты будуць чытаць малітвы Ружанца разам з Пантыфікам, які будзе знаходзіцца ў Ватыкане. Сама размова пецярбургскіх студэнтаў з Бенедыктам XVI будзе працягвацца шэсць хвілін, у якія Папа звернецца да пецярбургскай моладзі, а студэнты змогуць задаць яму пытанні», – распавёў І.Стагоў.

Ружанцовая малітва з Папам Рымскім таксама будзе трансліравацца праз Інтэрнэт. Мяркуецца, што трансляцыя працягнецца 2 гадзіны 15 хвілін.

Як адзначыў І.Стагоў, перад тэлемастом адбудзецца ўрачыстая святая Імша, якую адслужыць глава расійскіх католікаў мітрапаліт Тадэвуш *Кандрусевіч.*

## ХРЫСЦІЯНЕ НЕ ЖАДАЮЦЬ ПАКІДАЦЬ ІРАК

Нягледзячы на тое, што сітуацыя ў краіне «жудасная і трагічная», глава *халда*-каталікоў заявіў, што «практычна ні адзін хрысціянін не мае намеру пакідаць Ірак, а з'ява іміграцыі з асаджанай краіны больш закранула мусульман». Патрыярх *Эммануэль Деллі III* падкрэсліў, што маштабы хрысціянскай іміграцыі з краіны перабольшаныя, бо у цяперашніх умовах пакутуюць усе жыхарыкраіны, як хрысціяне, так і мусульмане. Шматлікія сем'і пакінулі Багдад, пераехалі ў больш спакойныя гарады на поўначы краіны. Аднак хрысціяне не маюць намеру пакідаць сваю краіну, яны чакаюць свайго хутчэйшага вяртання ў родныя мясціны.

*Agnuz*

## ДЗЕЙНАСЦЬ СВЯТОГА АЙЦА

*Окончание, начало на стр. 4.*

*Любви*, которая действительно была бы самым глубоким вдохновением, питающим на-ши взаимные отношения! И все же надежда осуществляет себя в терпении, в смирении и с доверием к Тому, Кто направляет нас.

Цель единства между учениками Христа, сколь бы отдаленной она ни казалась, не мешает нам жить между собой уже сейчас в любви, на всех уровнях. Не существует ни места, ни времени, в котором любовь, уподобленная любви нашего Учителя, Христа, была бы ненужной; она не может не сократить путь к полной общности.

Поручаю вам передать выражение моей искренней братской любви Его Блаженству Христодулосу. Он был рядом с нами, здесь, в Риме, чтобы проститься с Папой Иоанном Павлом II. Господь укажет нам способы и времена, чтобы повторить нашу встречу в радостной атмосфере братского общения.

Пусть ваш визит пройдет успешно, достигнув всех поставленных целей. Да пребудет с вами мое благословение.

*София Халходжаева*

# «DEUS CARITAS EST»

## *wokół pierwszej encykliki Benedykta XVI*

*Заканчэнне, пачатак у нумары 7*

W części drugiej, „praktycznej», Papież ukazuje, jak instytucjonalna posługa miłosierdzia nie może się obyć bez zaangażowania osobowego. Zadaniem kościelnych instytucji charytatywnych jest ostatecznie doprowadzanie do spotkania osób, przy czym ta, która pomaga, „kocha w Bogu i z Bogiem» (nr 18) tą, której pomaga. Oprócz fachowej pomocy służy właśnie miłującą obecnością: „Aby dar nie upokorzył drugiego, muszę mu dać nie tylko coś mojego, ale siebie samego, muszę być obecny w darze jako osoba» (nr 34).

Benedykt XVI dostrzega, że chrześcijanie wielekroć doświadczają bezradności wobec ogromu nieszczęścia w świecie. W tym doświadczeniu nieraz dochodzić mogą do okrzyku Jezusa: „Boże mój, Boże mój, czemuś mnie opuścił». „Powinniśmy pozostawać z tym pytaniem przed Jego obliczem w modlitewnym dialogu» – pisze Papież (nr 89), bo nasz protest, jeśli do Niego zwrócony, nie tylko nie jest wyrazem buntu, ale może być „ostatecznym, najgłębszym wyrażeniem wiary w Jego wszechmoc». Chrześcijanin ze swoim bólem, lękiem, czasami brakiem nadziei i wiary – może i powinien iść do Boga, który „jest Ojcem i kocha nas, nawet jeżeli Jego milczenie pozostaje dla nas niezrozumiałe».

### Pragnienie inności

Krótki komentarz do encykliki, która programowo zamierza objąć problem „rozumienia i praktyki miłości w Piśmie Świętym i Tradycji Kościoła», a zarazem nie stroni od analiz teologicznych i filozoficznych miłości jako doświadczenia ludzkiego i Boskiego, jest skazany na wielorakie uproszczenia. Wiadomo, że nawet encyklikę czyta się selektywnie, z miejsca określanego przez własne potrzeby i zainteresowania. Nie ukrywam więc, że to właśnie pierwsza część dokumentu zainteresowała mnie najbardziej. Na usprawiedliwienie powiem, że o agape i caritas wiele już w teologii powiedziano, także w papieskich dokumentach (warto przywołać chociażby nauczanie Jana Pawła II). Encyklika Benedykta XVI, szczególnie druga część, jest w moim przekonaniu świadectwem tej bogatej teologicznej tradycji; ukazaniem jej piękna i znaczenia w czasach współczesnych, w których o miłości mówi się wiele, tylko jakby nie na temat. Nie chcę przez to powiedzieć, że encyklika to tylko podsumowanie tradycji, bez śladów oryginalnej myśli Benedykta XVI. Tyle że dla mnie stała się zachętą raczej do karmienia nią swojej wiary i życia niż do intelektualnych zmagań.



Trochę inaczej natomiast czytało mi się pierwszą część encykliki, gdzie Papież podjął śmiałą próbę przywrócenia Kościołowi tradycji nauczania o miłościerosie. Eros bowiem nigdy nie miał wysokich notowań w chrześcijaństwie. Najczęściej zawężano rozumienie go do ciała, seksualnego pożądania i przyjemności; przedstawiano jako ikonę egoistycznej miłości, niegodnej chrześcijanina. Na Zachodzie «miłość ludzka» rozwinęła się «wobec», na zewnątrz, a czasami nawet przeciw chrześcijaństwu. Mogła więc być nie tylko grzechem, ale i herezją; eros był o to często oskarżany. Krytycy chrześcijaństwa obwieszczali, że ono «zabiło erosa» i upośledziło człowieka, niektórzy zaś teolodzy – że «podcięło mu skrzydła» i zubożyło chrystologię, duchowość oraz etykę. Tak tłumaczono fakt, że z erosa zrobiono w chrześcijaństwie nie tylko wroga agape, ale także ludzkiej seksualności i duchowości. Właśnie w tym dostrzegano problem lękowego mówienia w Kościele nawet o namiętnej miłości małżonków, w której widziano natychmiast ślady uprzedmiotowienia i miłości własnej czy też utrzymywania rozdzielenia duszy i ciała, duchowości i seksualności.

Wizja Benedykta XVI sugeruje jeszcze inną ocenę tego spotkania: taką, że chrześcijaństwo erosa przebóstwiło, jakby naturalnie go w siebie wchłaniając. Czy tak rzeczywiście się stało? To prawda, że Orygenes i św. Grzegorz z Nyssy nie bali się głosić, iż brak częstego występowania tego słowa na określenie miłości w Piśmie Świętym nie wynika z odrzucenia erosa i zastąpienia go przez agape, ale z zachowania czystości erosa, sprowadzanego przez słabych i niewykształconych czytelników Słowa Bożego do zwykłego popędu, pożądliwości i zmysłowości, kończącej się często na adoracji siebie samego. Zarówno dla Orygenesa, jak i Grzegorza eros miał wymiar inicjacyjny: nie w ludzką miłość (bo to raczej oczywiste, choć niewystarczające), ale w poszukiwania i miłość do Boga, a także Boga do człowieka. „Mój eros jest ukrzyżowany» – śmiało głosił Orygenes, parafrazując znane powiedzenie św. Ignacego z Antiochii („Chrystus-moja miłość jest ukrzyżowana»). My już chyba takiej wrażliwości nie posiadamy, ale skoro „erotyzm jest przede wszystkim i nade wszystko pragnieniem inności, a nadprzyrodzoność jest zasadniczą i ostateczną innością» (Octavio Paz), to chrześcijaństwo objawiło jej Imię i na Nią wskazało.

Tak odczytuję wysiłek Papieża w uciekaniu przed skrajnościami w ocenie erosa i włączeniu go w obręb chrześcijańskiego przeżywania miłości. Jeśli zgodzimy się, że „erotyzm i miłość to podwójny płomień życia», w takim razie nowa encyklika chroni to życie przed skrajnościami – ucząc, jak się rozpalić od tego płomienia i przekazywać go dalej, a się nim nie sparzyć.

*Tygodnik powszechny*

# ЯН ПАВЕЛ II. «UT UNUM SINT» ЭНЦЫКЛІКА ПРА ЭКУМЕНІЧНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

***У 1995 г. была абвешчана гістарычная энцыкліка Вялікага Папы «Ut unum sint», прысвечаная экуменічнай дзейнасці Касцёла, кароткі пераказ зместу якой прапануецца вашай увазе.***

*(Працяг. Пачатак у №4)*

### Практычныя формы супрацоўніцтва

«Пацвярджэннем шчырасці і аднадушнасці намераў і дэклараваных прынцыпаў з'яўляецца іх рэалізацыя ў канкрэтным жыцці. (...) Грамадскае і культурнае жыццё дае шырокія магчымасці для экуменічнага супрацоўніцтва Усё часцей хрысціяне становяцца ў адзін шэраг, каб абараняць чалавечую годнасць, пашыраць дабро і мір, уводзіць евангельскія прынцыпы ў грамадскае жыццё, напаўняць хрысціянскім духам навуку і мастацтва. Яны ўсё шчыльней узаемадзейнічаюць, калі трэба задаволіць патрэбы і лячыць раны нашай эпохі: голад, стыхійныя бедствы, сацыяльную несправядлівасць». Для хрысціянаў гэта не проста звычайная гуманітарная дзейнасць, а дзейснае служэнне Хрысту ў сваіх братах, якое з'яўляецца яскравым сведчаннем для свету і абвяшчэннем Хрыста. Найбольш важным кірункам экуменічнага супрацоўніцтва становіцца дзейнасць у абарону міра. «У 1986 г. у Асізі падчас Сусветнага дня малітваў за мір хрысціяне з розных Цэркваў і царкоўных супольнасцяў у адзін голас прасілі ў Валадара гісторыі міру для свету». У Яна Паўла II выклікае вялікую радасць тое, што хрысціяне ўсведамляюць усё большую адказнасць за справу міру.

### III. Quanta est nobis via? Працяг і паглыбленне дыялогу

Дасягнутыя поспехі экуменічнай дзейнасці: лепшае ўзаемнае зразуменне паміж хрысціянамі, дактрынальныя ўзгадненні, ўзрастанне еднасці пачуццяў і дзеянняў, недастатковыя для сумлення хрысціянаў, якія вераць у «адзіны святы паўсюдны і апостальскі Касцёл». «Канчатковаю мэтаю экуменічнага руху з'яўляецца аднаўленне поўнай бачнай еднасці ўсіх ахрышчаных», якая будзе выяўляцца ў супольнай цэлебрацыі Эўхарыстыі.



«Экуменізм азначае, што хрысціянскія Супольнасці павінны дапамагаць адна адной, каб у іх сапраўды прысутнічаў увесь змест і ўсе патрабаванні „спадчыны, перададзенай апосталамі“. Гэтая ўзаемная дапамога ў пошуку праўды з'яўляецца найвышэйшым праяўленнем евангельскай любові». У Энцыкліцы падаецца пералік тэмаў, якія неабходна паглыбіць, каб дасягнуць сапраўднай згоды ў веры: «1. Адносіны паміж Святым Пісаннем, найвышэйшым аўтарытэтам у справах веры, і святой Традыцыяй — неабходнай інтэрпрэтацыяй Божага Слова; 2. Эўхарыстыя, Сакрамант Цела і Крыві Хрыста, ахвяра праслаўлення, якая складаецца Айцу, успамін ахвяры і рэальная прысутнасць Хрыста, асвячальнае выліццё Духа Святога; 3. Пасвячэнне, зразуметае як сакрамэнт, для патройнага служэння епіскапату, прэзбітэрату і дыяканату; 4. Настаўніцтва Касцёла, даручанае Папу і Біскупам у еднасці з ім, зразуметае як здзяйсненне ў імя Хрыста ўлады і адказнасць за вучэнне і захаванне веры; 5. Дзева Марыя, Маці Божая і Вобраз Касцёла, духоўная Маці, якая заступаецца за вучняў Хрыста і ўсё чалавецтва». Бачанне адзінства, што бярэ пад увагу ўсе патрабаванні аб'яўленай праўды, не з'яўляецца стрымліваннем экуменічнага руху, а клопатам пра тое, каб пазбегнуць лёгкіх і зманлівых рашэнняў, якія не могуць прывесці ні да чаго трывалага.

### Укараненне дасягнутых вынікаў

Моцны імпульс працэсу шукання еднасці даў Папа Павел VI, наведаўшы ў 1969 г. Экуменічную Раду Цэркваў, а таксама шмат разоў сустракаючыся з прадстаўнікамі розных Цэркваў і супольнасцяў. Ян Павел II таксама пайшоў у гэтым кірунку, сваімі душпастырскімі візітамі даючы сведчанне на карысць адзінству хрысціянаў, асабліва ў тых краінах, дзе сітуацыя падказвала пэўны экуменічны «прыярытэт». Сярод іх – еўрапейскія краіны, дзе пачалася рэфармацыя, і Паўночная Амерыка. Сустракаючыся там са шматлікімі вернікамі, Папа сцвердзіў, што «мы адчулі прысутнасць Пана сярод нас». Ён таксама ўзгадвае шэраг падзеяў, якія сведчаць пра ўзаемнае жаданне аднавіць ранейшае адзінства.

*Catholic.by*

*Працяг будзе*

# ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

## ЖЁСТКОСТЬ СЕРДЕЦ

*По милосердию Бога и Его безграничной Любви на человека проливается освежающий и оживляющий поток света – добра, тепла, любви и радости душевной. Я ощущаю это через великий Дар Господа моей внучке – её умение сострадать, сопереживать, поддерживать людей, выражая свои чувства в поэтической форме Слова – щедрого «подарка» людям. Я счастлива, что в день моего рождения внучка подарила мне несколько хороших стихотворений. Пусть Дух Святой нисходит на её головку и помогает в творчестве!*

***Пани Этолия 28.02.2006г.***



К жестоким людям и судьба будет жестока.
Они не сразу пусть, но к этому придут,
Ведь до какого-то определённо срока
Их не наказывают: учат, верят, ждут,

Что образумятся они, поверят в Бога,
Возлюбят ближнего, как самого себя,
Поймут, что светом полнится дорога,
Когда по жизни ты идёшь, весь мир любя.

Что милосердие ко всем проникнет в душу,
Что состраданием наполнятся сердца,
Их безграничная любовь согреет в стужу,
И что не будет больше той любви конца.

Что навсегда исчезнут дождевые тучи
С небес их душ, не потревожит их гроза,
И упадёт на землю долгожданный лучик,
И озарится светом неба бирюза.

Увы! Но люди все по-своему жестоки...
Давайте вместе будем очищать сердца
И осознаем то, что счастья все истоки
Лежат у Божьих ног, у нашего Творца!

*Катя Пармон (17 лет)*

# ДЗІЦЯЧАЯ СТАРОНКА

***«Як дождж і снег сыходзіць з неба і туды не вяртаецца, але напаўняе зямлю і робіць яе здольнаю нараджаць і прарошчваць, каб яна давала насенне таму, хто сее, і хлеб таму, хто есць: так і слова Маё, якое зыходзіць з вуснаў Маіх, – яно не вяртаецца да Мяне дарэмным, але выконвае тое, што Мне трэба, і здзяйсняе тое, для чаго Я паслаў яго» (Іс 55, 10-11).***

***Хвала Хрысту! Дарагі дружа,*** паглядзі, калі ласка, на гэтага дзядулю ў капелюшы з парасонікам. Свае канькі ён перавесіў цераз плячо, а рукавіцы зняў. Ён махае рукой на развітанне і, не азіраючыся, адыходзіць. Дзеці, птушкі і сабака – усе радуюцца: зіме прыйшоў канец, ужо надыходзіць вясна! Праўда, часам па начах мароз ізноў вяртаецца, але вясна нарэшце яго прагоніць. Гэтую карціну Людвігаў Рыхтэр назваў: «Уцёкі зімы».



Прачытай, калі ласка, радкі пра вясну: *«Бегут ручьи, в лесах щебечут птицы, весна спешит на крыльях журавлей. А в синем небе ласково струится поток горячих солнечных лучей! Люблю весну – прообраз пробужденья от зимних снов неверия и тьмы... Так узник, покидая мрак тюрьмы,стремится к свету, к радости движения».*

**Так, дарагі дружа! Як вясна праганяе зіму, так і ты павінен выганяць грэх, нядобрыя задумы са свайго сэрца.**

Адчыні, калі ласка, хутчэй дзверы і вокны свайго сэрца і ачысці яго ад старых крыўд, упартага характару, злых думак і дрэнных слоў, бо Езус Хрыстус ужо стукае ў дзверы твайго сэрца. Ён жадае ўпрыгожыць яго яркімі колерамі святу, радасці, ветлівасці, дабрыні і пакорнасці. *Прачытай яшчэ раз верш і падумай, ці сапраўды так, як адыходзіць зіма, усе грахі павінны пакінуць твае сэрца?*

Давай памолімся разам і папросім, каб Гоcпад зрабіў нашы сэрцы чыстымі ад граху, і каб мы маглі пачуць Ягоны стук.

*Твая Надзейка*
*(паводле кнігі Юста М. Бона)*

## НАМ ПІШУЦЬ

# ЦЕНА ВЕРЫ И МОЛИТВЫ

В вышедшей недавно в свет первой энциклике Папы Бенедикта XVI **«Бог есть любовь»** выразительно отражена сущность христианской веры. Святой Отец напоминает о важнейшей правде нашей веры: любовь к Богу неотделима от любви к ближнему. Только молитва и жизнь в Духе могут помочь христианству стать объектом Божьей любви в мире, полном терпений.

Примером глубокой веры, любви к ближнему, сохранения христианских традиций своих предков является жизнь человека высокой духовной культуры Эдварда Войнилловича, построившего в городе Минске величественную святыню, костёл святых Симона и Елены, чем заслужил достойную память и уважение на своей Родине, в Беларуси и в последующих поколениях. О его деятельности и христианской правдивости свидетельствуют архивные документы, рассказы людей-старожилов тех мест, где жил Эдвард. Это Минск, Савичи, Слуцкий район, Копыльский район, Макраны, Клецк и Клецкий район, Столбцовский и Несвижский районы.

Он строил храмы как католические, так и православные, синагоги, чтобы люди прославляли единого Бога в своих святынях. Для него каждый крещёный человек был по духу и вере братом во Христе. Именно в вере и молитве он находил мужество, терпение и выносливость, особенно тогда, когда умерли его дети.

Сын Эдварда Войнилловича умер в подростковом возрасте, и для отца его смерть стала страшной утратой. В своём дневнике этот верующий человек написал: «...Бог наполнил меня силой, чтобы я не упал. Бог сберёг мне дочку, добрые качества и ум которой были мне видимым знаком Божьего милосердия над моей головой; они не позволили мне впасть в апатию и сомнение».

Сестра Симона Елена, будучи набожной, часто молилась. Когда заболела сама, то однажды ей приснился дивный сон: она увидела редкой красоты храм. Вскоре она перенесла то, что видела во сне, на бумагу. Перед смертью просила родителей построить храм, где бы люди возносили хвалу Богу.

Какой же сильной и стойкой должна была быть вера Эдварда Войнилловича, с которым через год после смерти сына случилась следующая трагедия.

*Елена Голуб*

*Продолжение следует*

## ВІНШУЕМ МАЛАДЫХ



**Аддаём пад апеку Бога маладых, давяраючы, што стрымаюць у сваім жыцці сужэнскую прысягу. Просім нашых парафіянаў аб малітве за іх:**

1. Кузьменю Дзмітрыя і Грынь Вікторыю
2. Драчова Мікалая і Якубовіч Алену
3. Врублеўскага Сяргея і Андруковіч Вольгу
4. Фраленкова Уладзіміра і Шчасную Вікторыю
5. Банькоўскага Аляксея і Макара Юлію
6. Плотнікава Яўгена і Гушчо Вольгу
7. Ждана Валерыя і Ждан (Зелянко) Ганну
8. Масальскага Аляксандра і Масальскую (Скабінскую) Анастасію
9. Заброцкага Дзмітрыя і Заброцкую (Шыўрыну) Вольгу
10. Рысніка Віктара і Рыснік Ірыну

## СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:**

Дар'я Навіцкая, дачка Андрэя і Святліны



### Малітва бацькоў пасля Хросту

Божа, Ойча ўсяго жывога! Зірні ласкава на гэтае дзіцятка, якое Ты даў нам. Адары яго верай, надзеяй і любоўю, учыні, каб, узрастаючы ў ласцы і любові, заквітнела добрымі ўчынкамі і стала дзіцяткам Тваім навекі.

## СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА

_______ . _______ 2006г. у _______ . _______ гадзін

у інтэнцыі ____________________________________________

________________________________________________________

| 13 сакавіка Панядзелак | 14 сакавіка Аўторак | 15 сакавіка Серада | 16 сакавіка Чацвер | 17 сакавіка Пятніца | 18 сакавіка Субота | 19 сакавіка Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - * | 8.00 - ✞ | 9.00 - * |
| 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 10.00 - ✞ | 10.00 - *IT |
| 17.00 - ✞ | 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 12.00 - ✞ | 11.00 - * |
| 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - * | 19.00 - * | 17.00 - * | 13.00 - S |
| | | | | | 19.00 - M | 17.00 - * 👪 |
| | | | | | | 19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі
PL – Св. Імша на польскай мове
👪 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**
Кожны дзень у нашай парафіі а 20-й гадзіне спяваецца **АПЭЛЬ**

16 сакавіка - У Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі - ГАДАВІНА ПАСВЯЧЭННЯ КАТЭДРАЛЬНАГА КАСЦЁЛА
17 сакавіка - Успамін св. Патрыка, біскупа
18 сакавіка - Успамін св. Кірыла Ерусалімскага, біскупа і доктара Касцёла

12 САКАВІКА - 2 НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

# АБ`ЯВЫ

### ПАДПІСКА НА «ГОЛАС ДУШЫ»

Шаноўныя веруючыя людзі і ўсе тыя, хто цікавіцца навінамі, якія адбываюцца ў Каталіцкім Касцёле на Беларусі і ва ўсім свеце, ***заахвочваем Вас падпісацца на газету «Голас душы» ў любым паштовым аддзяленні Рэспублікі Беларусь.***

Індэкс выдання – **63135**.

Кошт падпіскі на 1 месяц – 3.170, на 3 месяцы – 9.510, на 6 месяцаў – 19.020 беларускіх рублёў.

*Рэдакцыя*

### КРЫЖОВАЯ ДАРОГА

У часе Вялікага посту штодзённа а 10.00 і 18.00 гадзіне адбываецца Крыжовая Дарога.

Разважанні аб пакутах Езуса Хрыста падчас дарогі на Галгофу праводзяць:

**панядзелак – хор «Голас душы»;**
**аўторак – суполка «Каштоўная Жамчужына»;**
**серада – «Легіён Марыі»;**
**чацвер – суполкі Жывога Ружанца;**
**пятніца – міністранты;**
**субота – парафіяльная моладзь;**
**нядзеля – дзеці.**

# ІМЯНІНЫ

**13 сакавіка - св. Нікіфар, св. Крысціна -** Бажэна, Раман, Ада, Рамуальда, Марыя, Васіль, Несцер, Мікалай
**14 сакавіка - св. Лазар, св. Мацільда -** Захар, Лявон, Аліцыя, Антаніна, Еўдакія, Антон, Несцер
**15 сакавіка - св. Клеменс, св. Людвіка -** Людвік, Лёнгін, Вераніка, Ірэна, Клементына, Агафона, Арсеній, Багдан, Фядот
**16 сакавіка - св. Рэнат -** Кірыла, Кляонік, Гілярый, Ізабэла, Актавія, Мяфодыя, Зоя, Зіновій, Заіл
**17 сакавіка - св. Патрык -** Гертруда, Збігнеў, Вітольд, Васіль, Вячаслаў, Герасім, Даніла, Павел, Рыгор, Якаў, Ульяна
**18 сакавіка - св. Эдвард, св. Кірыла - Сабіна, Сцяпан, Эрыка, Стэфанія, Андрыян, Анісій, Давід,** Конан, Марк, Фёдар, Яўлампій
**19 сакавіка - св. Юзаф -** Юзэфа, Аркадзь, Багдан, Багдана, Моніка, Ванда, Ганна, Балеслаў, Каліст, Канстанцін, Конан, Фёдар

Голас душы № 10 (194) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.
Заснавальнік: грамадскае аб`яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрднасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by, www.churchminsk.by. Падпісана да друку 08.03.2006. Фармат 60x84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №